ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга Ноша

№ 37
красавік, 2016

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Анатоль БАРОЎСКІ:
# «Таленавітыя людзі нараджаюцца на паляшуцкай зямлі...»


фота www.svaboda.org.

**– Шаноўны Анатоль Мікалаевіч, віншуем з атрыманнем першай літаратурнай прэміі «Воін Святла». Чым гэтая ўзнагарода каштоўная для Вас асабіста?**

– Чым каштоўная? А тым, што і па сёння ідзе змаганне «За нашу і вашу свабоду». Светлыя часы яшчэ не наступілі. Таму і Украіна, і Беларусь крочаць гэтым шляхам, кіруючыся запаветам Кастуся Каліноўскага: «Да тае пары, браткі, шчасця ў вас не будзе, пакуль маскаль над вамі!..» Каштоўнасць узнагароды ў тым, што мы верым у сваю перамогу, даб'емся свайго.

**– У рамане «Воляй абраны» Вы апісалі вызвольнае паўстанне і стварылі запамінальны вобраз Кастуся Каліноўскага. Каму адрасаваны Ваш раман? Чаму гэты твор можа навучыць чытача?**

– Раман «Воляй абраны» найперш адрасаваны маладому чытачу, але не толькі маладому пакаленню. Чытач любога ўзросту павінен ведаць пра нашых слынных герояў, якія аддалі сваё жыццё за светлыя ідэалы будучыні. А раман закліканы да таго, каб кожны беларус любіў сваю Айчыну, каб змагаўся за тое, каб «не аддаваць сваю радзіму на здзек чужынцам, не схіляць галовы перад фальсіфікацыямі сапраўднай гісторыі, спяваць свае, а не чужыя песні, маліцца свайму Богу, а не навязаным усходнімі суседзямі…»

**– Вы аўтар дакументальных раманаў «Мы – Юницкие» і «Юницкого небесные дороги» пра вынаходніка Анатоля Юніцкага. Чаму Вы звярнуліся да гэтай тэмы?**

– Так, гэтыя раманы адыгралі станоўчую ролю ў маім жыцці. Калі нашыя суседзі не могуць пахваліцца сваімі значнымі вынаходніцтвамі, а толькі ўкрадзенымі з-за мяжы, то наш айчынны вынаходнік і вучоны, наш зямляк, родам з вёскі Крукі Брагінскага раёна (выселенай з-за Чарнобыля) Анатоль Юніцкі, доктар фізіка-матэматычных навук, вынайшаў «Струнны транспарт», які рухаецца па апорах над зямлёй. Бацька яго, Эдуард Пятровіч, нарадзіўся ў вёсцы Крушнікі Мазырскага раёна, адкуль і я родам. Мабыць, лёс нас звязаў у адзіны вузел. І таму я, пачынаючы ад продкаў бацькі, аж ад пазамінулага стагоддзя паказаў, якія таленавітыя людзі нараджаюцца на паляшуцкай зямлі і хто такія Юніцкія. А ўзвядзенне «струннай дарогі» перайшло ў найвышэйшую стадыю, і будуецца SkyWay (так называецца праект) каля Мар'інай Горкі пад Мінскам. Вось-вось паляцяць па ёй юнібусы.

**Даведка «Кніганошы»:**

**Анатоль Бароўскі – паэт, празаік. Аўтар кніг «Каліна пад акном» (1987), «Азірніся ў каханні» (1994), «Чорны бусел – белы цень» (1997), «Пякельны рай» (2002), «Мы – Юницкие» (2010), «Воляй абраны» (2015) і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Крушнікі Мазырскага раёна на Гомельшчыне. Жыве ў Гомелі.**

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Роўда Марыя. Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі: аповесці, апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 312 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 71).**

Кніга Марыі Роўды ўяўляе сабой зборнік апавяданняў і аповесцяў, напісаных на мяжы дваццатага і дваццаць першага стагоддзяў. Героі твораў – гэта моладзь дзевяностых, якая шукае сябе, сапраўднае каханне і свае карані на разломе часу, калі здаецца, што паўстае цалкам новая Беларусь. Ці знаходзяць героі ў сярэднім веку тое, што шукалі ў маладосці, якую яны стварылі будучыню, з самаіроніяй, сумам і любоўю распавядаецца аўтарам у творах новага тысячагоддзя.




**Даніленка Уладзімір. Клетка для івалгі: раман, аповесць, апавяданні. Пер. В. Стралко, Б. Пятровіча. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 360 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 72).**

Уладзімір Даніленка – адзін з самых яркіх сучасных украінскіх празаікаў. Яго творы адзначаныя нацыянальнымі літаратурнымі прэміямі, уваходзяць у рэйтынгі найлепшых украінскіх выданняў і перакладзеныя на шматлікія замежныя мовы. У беларускае выданне ўвайшлі раман «Клетка для івалгі» пра геніяльную спявачку, якой савецкі рэжым не дазволіў рэалізаваць свой талент з-за яе сувязі з дысідэнтамі, аповесць «Цені ў маёнтку Тарноўскіх» пра крызіс сучаснай кіеўскай сям'і, якая спрабавала вырашыць свае праблемы нетрадыцыйнымі метадамі псіхатэрапіі, і апавяданні, што даюць уяўленне пра творчасць гэтага каларытнага пісьменніка.




**Кеда Альжбета. Пра тое, што люблю: кніга прозы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 296 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 74).**

Заяўлены ў назве матыў любові праходзіць праз усю кнігу Альжбеты Кеды (Алы Петрушкевіч), гарадзенскай пісьменніцы, кандыдата філалогіі. Гэта любоў да мясцінаў яе дзяцінства і юнацтва, да Гародні, да літаратуры, якая стала сэнсам жыцця, да тых асобаў, што пазначаны талентам.




**І боль, і прыгажосць...: выбраныя творы паэтаў Еўропы і Амерыкі ў перакладах Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 454 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 73).**

Увазе беларускага чытача прапануецца беспрэцэдэнтная аўтарская анталогія паэзіі Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, у якую ўключаныя каля 250-ці твораў ста розных паэтаў, перакладзеныя Лявонам Баршчэўскім больш як з трыццаці моваў.




**Гарбузік. Цуды свету: літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 30 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»).**

Альманах «Гарбузік. Цуды свету» – цудоўная чытанка для дапытлівых дзетак, а таксама іхных неабыякавых бацькоў, выхавальнікаў і настаўнікаў. У зборнік увайшлі навучальныя і забаўляльныя матэрыялы: вершы, казкі, заданні, коміксы, настольная гульня ды іншыя цікавыя рэчы.




**Найдзёнаў Мікіта. Развітанцы: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 76 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютную кнігу Мікіты Найдзёнава складаюць вершы, напісаныя цягам апошніх трох гадоў. Гэта рамантычныя, іранічныя і танцавальныя гісторыі кахання, з якімі аўтару карціць урэшце развітацца.




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXV. № 4 Укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 180 с.**

У чацвёртым выпуску «Новага замка» надрукаваны вершы, проза, успаміны, эсэ і публіцыстыка літаратараў Гарадзеншчыны. Ва ўспамінах «На пачатку ліпеня 44-га» Аляксей Пяткевіч распавядае пра дні адыходу нямецкай арміі на захад, сведкам якіх ён быў. Раздзел «Спадчына» ўтрымлівае творы Эдуарда Мазько, які заўчасна пайшоў з жыцця ў 2011 годзе, а таксама падрыхтаваны Сяргеем Чыгрынам тэкст пра паэта, сябра Саюза вызвалення Беларусі Самсона Пярловіча і нізка яго вершаў. У рубрыцы «Друкарскі варштат» друкуецца тэкст Сяргея Астраўца пра незалежнага выдаўца Аляксандра Рыжага і прыватнае выдавецтва «ЮрСаПрынт».




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №3, 2015. Укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 240 с.**

Трэці нумар літаратурнага альманаха Гомельскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Палац» знаёміць з паэзіяй, прозай, успамінамі, а таксама творамі для дзяцей, гістарычнымі і літаратуразнаўчымі матэрыяламі, прысвечанымі жыццёваму шляху і спадчыне знакамітых творцаў гомельскай зямлі. У новым раздзеле «Пабрацімства» друкуюцца творы літаратараў з Чарнігаўшчыны.




**Вярбоўская Вацлава. Маці Еўфрасіння. Апошняе падарожжа: літаратурны сцэнарый тэлевізійнага мастацкага фільма ў 18 частках. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 372 с.**

У цэнтры ўвагі ў кнізе Вацлавы Вярбоўскай «Маці Еўфрасіння (Апошняе падарожжа)», якая з'яўляецца сцэнарыем да тэлевізійнага мастацкага фільма, – асоба Еўфрасінні Полацкай, яе рэлігійная і асветніцкая дзейнасць. У творы праз метафару падарожжа прападобнай Еўфрасінні на Святую Зямлю паказваецца ўвесь яе жыццёвы шлях, ад маленства і пострыгу да сыходу ў лепшы свет. Жыццё асветніцы апісанае скрозь прызму біблійных, у прыватнасці, новазапаветных сюжэтаў, што робіць кнігу блізкай шырокаму колу чытачоў.




**Сыс Анатоль. Берагі майго юнацтва: вершы, пародыі. Уклад., прадм. Алесь Бяляцкі; маст. Дар'я Бунеева. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 250 с.**

«Берагі майго юнацтва» – цудам ацалелы паэтычны зборнік Анатоля Сыса, у які ўвайшлі вершы, напісаныя ім падчас вучобы ў Гомельскім універсітэце, а таксама невядомыя творы пазнейшых часоў...




**Станкевіч Юры. Паўночны вецер для спелых пладоў: раман, аповесці, апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 248 с.**

Кніга вядомага беларускага пісьменніка Юры Станкевіча хіба што лішні раз сведчыць пра шырокі дыяпазон яго тэмаў і жанраў. Раман «Паўночны вецер для спелых пладоў» пра далёкія студэнцкія гады і каханне нечакана перагукаецца з сучаснасцю. Дзеянне прапанаваных аповесцяў адбываецца як у мінулым, так і ў будучыні, і тая будучыня цяпер падаецца аўтарам на мяжы фантастыкі і прыпавесці. Некалькі вострасюжэтных апавяданняў толькі дадаюць і разгортваюць асноўныя тэмы творчасці пісьменніка, найважнейшая з якіх – нацыянальнае самавызначэнне.




**Акудовіч Валянцін. Прачнуцца ранкам у сваёй краіне: збор тэкстаў. – Вільня: Логвінаў, 2015. – 286 с.**

Гэта не кніга. Гэта збор тэкстаў, які хацеў бы стацца кнігай, але... Залішне рознымі былі тыя часы і эпохі, калі яны пісаліся. Як, адпаведна, моцна розніўся сам ад сябе аўтар. Таму мы не лішне перабольшым, калі скажам, што ў гэтага збору не адзін, а цэлы хаўрус аўтараў, якія толькі паводле даўняй завядзёнкі пазначаныя агульным прозвішчам Валянцін Акудовіч.




**Хадановіч Андрэй. Цягнік Чыкага-Токіё: вершы. Малюнкі Райнхарда Кляйста. – Logvino literatūros namai, 2016. – 182 с.**

Новая кніга вершаў Андрэя Хадановіча – амаль кругасветнае падарожжа ў таварыстве мёртвых паэтаў, жывых празаікаў і перакладзеных бардаў, каліфарнійскіх геяў ды ісландскіх гейзераў, шэрых аёўскіх вавёрак і чырвоных лацінскіх стралкоў. Падарожжа пачынаецца ў Парыжы, дзе няма 38 тралейбуса, і заканчваеццаў Мінску, дзе ён ёсць. Напрыканцы, як заўжды, хэпі-энд і Каляды.




**Ліпска Эва. Дзень Усіх Жывых: выбраныя вершы. Пер. з польск. А. Хадановіч. Вільня: Логвінаў, 2015. – 142 с.**

У кнігу «Дзень Усіх Жывых» увайшлі выбраныя вершы адной з найвыбітнейшых польскіх паэтак Эвы Ліпскай у беларускіх перакладах Андрэя Хадановіча. Кніга складаецца з дзвюх частак. У першай сабраныя найлепшыя верлібры з усіх паэтычных зборнікаў аўтаркі. У другой частцы цалкам прадстаўленыя вершы прозай з апошніх кніг паэткі: «Любая пані Шубэрт...» і «Каханне, любая пані Шубэрт...»




**Задура Богдан. Труны з Ікеі: выбраныя вершы. Пер. з польск. А. Хадановіч. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2016. – 148 с.**

У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы з чатырнаццаці зборнікаў Богдана Задуры. Аўтар – бясспрэчны класік сучаснай літаратуры, адзін з найвядомейшых у Польшчы і за яе межамі паэтаў. «Труны з Ікеі» ў перакладах Андрэя Хадановіча – першае выданне знакамітага паэта ў Беларусі.




**Цвірка Кастусь. На скрыжалях вякоў: гістарычныя творы. – Мінск: Харвест, 2015. – 560 с.**

У кнізе ў жывых аповедах раскрываецца слаўная гісторыя Беларусі, паказваюцца дзеі беларускай дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае, якая цягам пяці стагоддзяў сапернічала з Маскоўскай дзяржавай. А таксама ў кнізе змешчаны гістарычны раман «Януш Радзівіл, або Вайна з Масковіяй».




**Ягоўдзік Уладзімір. Быў знак на небе, Або прырода Беларусі ў з'явах і падзеях. Прадм. В. Карамазава, фотаздымкі І. Бышнёва, М. Гулінскага, В. Дубіловіча, В. Сугойдзя, С. Чарапіцы, гравюры А. Тарасевіча. – Мінск: Выдавец М. Ягоўдзік, 2015. – 144 с., [8] л. кал. іл.**

У гэтай кнізе сабраны цікавыя звесткі пра беларускую прыроду за тысячу гадоў, занатаваныя ў летапісах і на старонках друкаваных выданняў.




**Тарасаў Кастусь. Апошняе каханне князя Міндоўга: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 192 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Імя Кастуся Тарасава ў беларускай літаратуры стаіць побач з імем Уладзіміра Караткевіча. Гістарычныя творы гэтых знакамітых пісьменнікаў цудоўна дапаўняюць адзін аднаго. Аповесць «Апошняе каханне князя Міндоўга», прысвечаная заснавальніку дзяржавы нашых продкаў – Вялікага Княства Літоўскага, з'яўляецца найлепшым у беларускай гістарычнай літаратуры творам пра ўзаемадачыненні ўладара і ўлады. У прыгодніцкай аповесці «Здань Чорнага шляху» чытач апынаецца ў атмасферы недаступнага страху, у якім на пачатку XVI стагоддзя жыў Ашмянскі павет. Кастусь Тарасаў неверагодна глыбока ведаў і адчуваў гісторыю – яе матэрыяльны свет разам з патаемнымі рухамі чалавечай душы.




**Маўр Янка. У краіне райскай птушкі. ТВТ. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 304 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Янку Маўра, які пісаў найперш для юных чытачоў і творча засвойваў традыцыі Жуля Верна, Фенімора Купера і Майн Рыда, заслужана лічаць заснавальнікам прыгодніцкага жанру ў беларускай літаратуры. Дзеянне аповесці «У краіне райскай птушкі» адбываецца на ціхаакіянскіх выспах Новай Гвінеі, дзе калісьці пабываў славуты вучоны-этнограф, антраполаг і падарожнік, заступнік абарыгенаў Мікалай Міклуха-Маклай. Папуас Саку хлопчыкам трапіў у місіянерскую школу і шчыра паверыў у хрысціянскую ідэю ўсеагульнага даравання і любові, аднак пераканаўся, што белыя каланізатары груба парушаюць святыя запаветы. Аповесць «ТВТ» чытаецца з цікавасцю не меншай, чым культавыя «Палескія рабінзоны». Гэты твор тэматычна перагукаецца з гайдараўскім «Цімурам і яго камандай», аднак напісаны быў значна раней.




**Колас Якуб. Казкі жыцця. Сымон-музыка. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 416 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Народны паэт Беларусі Якуб Колас нездарма лічыцца класікам нашай літаратуры. Менавіта ім створаны нацыянальны літаратурны канон, узор, на які арыентавалася не адно пакаленне беларускіх пісьменнікаў. Творы Коласа заслужана сталі хрэстаматыйнымі. Разам з тым менавіта школа прывучыла нас глядзець на пісьменніка толькі як на стваральніка «энцыклапедыі сялянскага жыцця». І ўсё ж не трэба забываць, што Колас – перадусім філосаф, які надзвычай тонка адчуваў жыццё! Каб пабачыць і палюбіць «іншага» Коласа, варта звярнуцца да «Казак жыцця» і «Сымона-музыкі». Гэтыя творы, поўныя алегорый і метафар, насамрэч адлюстроўваюць рэальнае жыццё пісьменніка, поўнае змагання за сябе і сваю краіну. Але паглядзіце, як творча асэнсоўвае ён жыццёвы матэрыял, ператвараючы пакуты ў казкі і паэму!




**Брыль Янка. Ніжнія Байдуны: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 464 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль – унікальны майстар лірычнай прозы, які «незамыленым вокам» бачыў свет і людзей вакол сябе і апавядаў пра ўбачанае, пачутае ды адчутае жывой і натуральнай беларускаю мовай. Майстар аповесці, апавядання, лірычнай мініяцюры, ён ва ўсёй сваёй творчасці заставаўся гуманістам і ўнутрана абсалютна свабодным чалавекам. Адкрыты ўсяму свету, ён не ўяўляў сябе па-за Беларуссю, асобна ад сваіх землякоў, якіх ён шчыра і сардэчна любіў. Назіральнасць, тонкае пачуццё гумару, энцыклапедычная дасведчанасць – усё гэта ў творчасці Янкі Брыля складае непаўторную гармонію.




**Караткевіч Уладзімір. Сівая легенда. Ладдзя Роспачы. Цыганскі кароль. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 256 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У сівой беларускай даўніне Уладзімір Караткевіч адшукаў і пераказаў сучаснікам драматычныя, пранізліва-кранальныя гісторыі пра каханне, высакароднасць і незнішчальную любоў да жыцця. Барвяны нобіль Раман Ракутовіч падымае мужыцкі бунт, каб заваяваць волю для прыніжаных суайчыннікаў і для сваёй каханай, прыгоннай сялянкі Ірыны («Сівая легенда»). Якое ж вытанчанае ў сваёй жорсткасці пакаранне рыхтуюць для закаханых бязлітасныя суддзі? Герой «Ладдзі Роспачы» Гервасій Выліваха бавіць час на вясёлых ігрышчах і ў любоўных прыгодах. «Бабздыр несамавіты» яшчэ не ведае, хто будзе яго апошняя ў жыцці жанчына, якое будзе яго апошняе каханне і чым завершыцца ягоны шахматны паядынак з пані Смерцю. Фантастыка, містыка, гумар шыбенікаў – у гэтым творы ўсё, чым вабіць літаратурнае барока. Шляхціччу Міхалу Яноўскаму наканавана трапіць у мройную дзяржаву цыганоў і сустрэцца з яго вялікасцю Якубам Першым... («Цыганскі кароль»).




**Мележ Іван. Подых навальніцы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 704 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Чытач знаёміцца з другой часткай «Палескай хронікі» Івана Мележа, дзе сустрэнецца са знаёмымі героямі – Васілём Дзятлам, Ганнай Чарнушкай, Халімонам і Яўхімам Глушакамі, «бальшавіком з чалавечым тварам» Апейкам. З'яўляюцца і новыя – заціты калектывізатар Башлыкоў, паэт Алесь Маёвы. Пісьменнік працягвае разгортваць апавядальную плынь, якую можна назваць сагай пра Палессе і параўнаць з творамі Фолкнера, Гарсія Маркеса, якія ад рэгіянальнага ішлі да ўніверсальнага. Цэнтрам створанага Мележам свету па-ранейшаму застаюцца Курані, дзе хаты стаялі на востраве, дзе кахаліся Васіль і Ганна. І...працягваюць кахаць, нягледзячы ні на што – ні на Глушакоў, ні на вясковую мараль, ні на калектывізацыю.




**Чыгрын Сяргей. 125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 84 с.**

Калі з'явіліся першыя людзі на Слонімшчыне? Як раней называўся Слонім і што азначае яго назва? Ці прымалі слонімцы ўдзел у Грундвальдскай бітве? Хто такі Міхал Валовіч? Якія помнікі і шыльды ёсць у Слоніме? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кніга па гісторыі Слонімшчыны ў пытаннях і адказах. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў, але ў першую чаргу на тых, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, найперш – гісторыяй слонімскай зямлі.




**Сагановіч Генадзь. Грунвальд у беларускай гісторыі: Спроба разбору палітычнага міфа. – Мінск: Медысонт, 2015. – 416 с. – (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»). – Папярэд. выд.: Вільнюс: Выдавецтва Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, 2015. – 320 с.**

Кніга прысвечана бітве пад Грунвальдам як факту грамадскай свядомасці – яе «пасмяротнаму жыццю» ў гістарычнай думцы і сацыяльнай памяці Беларусі. Аўтар паспрабаваў выявіць шляхі і абставіны пашырэння ўстойлівых перакананняў пра бітву 1410 г., а таксама паказаць іх ідэалагічны змест і грамадска-палітычнае прызначэнне.




**Міцкевіч Валер. Пазіцыі германскіх дывізій у Беларусі: Сектар Вішнева-Крэва. – Мінск: Тэхналогія, 2016. – 103 с.: іл. – (Памяткі Першай сусветнай).**

У кнізе разглядаюцца класіфікацыя, тыпалогія, канструкцыя і гісторыя будаўніцтва фартыфікацыйных аб'ектаў германскай арміі перыяду Першай сусветнай вайны ў межах пазіцыяў чатырох пяхотных дывізіяў на тэрыторыі Валожынскага, Ашмянскага і Смаргонскага раёнаў Беларусі. Інфармацыя пра сучасны стан сховішчаў, арсеналаў, бункераў і ваенных пахаванняў падаецца ў выглядзе фотаздымкаў, малюнкаў і мапаў пачатку XX і XXI стст. Закранаецца пытанне захоўвання вышэйназваных аб'ектаў як гістарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.




**Працы Цэнтра вывучэння гісторыі гандлю. Выпуск 1. – Мінск: Тэхналогія, 2015. – 184 с.**

Першы выпуск Працаў Цэнтра вывучэння гісторыі гандлю ўтрымлівае матэрыялы міжнароднага семінара «Крыніцы гісторыі рознічнага гандлю ў Беларусі» (Мінск, 11.10.2014), якія адлюстроўваюць стан крыніцазнаўчай базы па гісторыі гандлю ў Беларусі і магчымасці архіўных збораў для вывучэння дадзенай тэмы, а таксама навуковыя артыкулы сяброў Цэнтра, прысвечаныя гісторыі гандлю ў Беларусі.




**Несцярэнка Юры. Маё мястэчка ў часе і прасторы. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 128 с. [іл.]**

Даследуючы мінуўшчыну і сучаснасць родных Бялынічаў, музыка і літаратар Юры Несцярэнка праяўляе немалы талент і як краязнаўца. Зборнік змяшчае шэраг дасціпных нарысаў, прысвечаных назвам вуліцаў мястэчка, найбольш цікавых яго мясцінаў і адметнасцяў, а таксама невялікі раздзел «сацыяльна-філасофскіх» развагаў пра сцежкі-дарожкі – бялыніцкія тратуары.




**Шакало Валерий. Владимир Высоцкий. Дерби длиною в жизнь. – Минск: Змицер Колас, 2015. – 368 с., [18] л. ил.: ил.**

Гэтае даследаванне – усяго толькі спроба дакрануцца да таямніцы вялікага Барда, самаразбурэнне якога прывяло да яго заўчаснага трагічнага сыходу. Даследаванне не прэтэндуе на поўнасць ахопу шляху і творчасці такой яркай асобы, якой быў У. Высоцкі, а ўсяго толькі інтэрпрэтуе некаторыя факты і акалічнасці яго бурнага жыцця і высвятляе нейкія грані яго паэтычнай праявы.




**Мураўёў Міхаіл. Нататкі пра кіраванне Паўночна-Заходнім краем і пра падаўленне ў ім бунту. Прадм., камент. Аляксандр Фядута. – Мінск: Лімарыус, 2016. – 224 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Успаміны вядомага расейскага дзяржаўнага дзеяча XIX стагоддзя Міхаіла Мураўёва (1796–1866) тычацца часоў ягонага генерал-губернатарства ў беларуска-літоўскіх губернях. Упершыню тэксты суправаджаюцца грунтоўнымі каментарамі, якія паказваюць намаляваныя Мураўёвым падзеі ў кантэксце гістарычных дакументаў і сведчанняў ягоных сучаснікаў. Гэта дазваляе чытачу самому зрабіць высновы пра тое, наколькі шчыры быў мемуарыст і ці адпавядала напісанае ім рэчаіснасці.




**Нуждзіна Тамара. Ніл Гілевіч: маштабнасць таленту і веліч асобы. – Мінск: Про Хрысто, 2015. – 180 с.**

У манаграфіі на аснове фактаалагічных матэрыялаў, аўтабіяграфічнай прозы, навукова-даследчых працаў, літаратуразнаўчай эсэістыкі, паэтычных набыткаў народнага паэта Ніла Гілевіча асэнсаваны генезіс яго мастацкага мыслення. Многія высновы грунтуюцца на спасцiжэнні яго здольнасцяў асімляваць вопыт народна-песеннай паэтыкі і стылістыкі, духоўна-эстэтычны патэнцыял нацыянальнай і сусветнай класікі. Даследаванне будзе цікавым і карысным літаратуразнаўцам, выкладчыкам ВНУ і ўсім, хто цікавіцца творчасцю Ніла Гілевіча.

## ■ НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Міцкевіч Вера. Якуб Колас: Пясняр зямлі і неба Беларусі. – Мінск: Харвест, 2016. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч; 1882–1956) – народны беларускі паэт («дзядзька Якуб»), а таксама пісьменнік, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Адзін з творцаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Аўтар шырокавядомых літаратурных твораў, якія на працягу стагоддзя нязменна карыстаюцца любоўю чытачоў.




**Арлоў Уладзімір. Уладзімір Караткевіч: Прарок беларушчыны. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Уладзімір Караткевіч (1930–1984) – выдатны пісьменнік, паэт і публіцыст, адзін з найбольш яскравых беларускіх літаратараў XX стагоддзя. У сваіх творах ён цалкам расчыніў душу народа і яго нацыянальны характар. Замест сялянскай краіны з вясковымі дзікунамі ён паказаў Беларусь цывілізаванай еўрапейскай дзяржавай са шматлікімі гарадамі і замкамі, з вялікай гісторыяй, культурай і мастацтвам... Цэлае пакаленне беларускіх літаратараў «выйшла» з творчасці Караткевіча, прыняўшы розумам і сэрцам створаны ім цудоўны міф пра Беларусь.




**Супольнасці каменнага і бронзавага вякоў міжрэчча Віслы і Дняпра: Зборнік навуковых артыкулаў памяці Міхала Чарняўскага. Уклад. В.У. Ашэйчык, М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2015. – 288 с.: іл.**

Зборнік навуковых артыкулаў складаюць працы, якія былі прадстаўлены на Міжнароднай канферэнцыі «Супольнасці каменнага і бронзавага вякоў міжрэчча Віслы і Дняпра». Канферэнцыя, прымеркаваная да 75-годдзя з дня нараджэння выбітнага беларускага археолага Міхала Чарняўскага, адбылася 5–7 сакавіка 2013 г. у Мінску. У сваіх артыкулах беларускія, польскія і расійскія даследчыкі закранаюць шырокі спектр праблемаў, звязаных з вывучэннем матэрыяльнай культуры, а таксама духоўнага жыцця дагістарычнага насельніцтва Беларусі і сумежных рэгіёнаў.

Выданне разлічана на археолагаў, гісторыкаў, музейных супрацоўнікаў, студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца старажытнай гісторыяй Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.




**Галубовіч Віталь. Полацкая шляхта і дынастыя Вазаў. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2016. – 224 с.: іл.**

У кнізе беларускага даследчыка Віталя Галубовіча разглядаюцца разнастайныя аспекты гісторыі полацкай шляхты падчас праўлення ў Рэчы Паспалітай трох каралёў з дынастыі Ваза (канец XVI – сярэдзіна XVII ст.). Аўтар на падставе шырокага кола гістарычных крыніцаў, многія з якіх выкарыстоўваліся ўпершыню, паказвае на прыкладзе полацкага рэгіёна асаблівасці грамадска-палітычнага жыцця лакальнай шляхецкай супольнасці, якая была неад'емнай часткай палітычнага народа Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Разлічана на навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў, студэнтаў і аматараў беларускай гісторыі.




**Кэмпа Томаш. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка (1549–1616). Віленскі ваявода. Навук. рэд. А. Шаланда; пер. з пол. С. Петрыкевіч. – Мір: Музей «Замкавы комплекс «Мір», 2016. – 508 с.: іл.**

У манаграфіі вядомага польскага даследчыка Томаша Кемпы распавядаецца пра жыццё і дзейнасць аднаго з самых славутых у гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы прадстаўніка магнацкага роду Радзівілаў – віленскага ваяводу, князя Мікалая Крыштафа Радзівіла (1549–1616). На падставе шырокага кола крыніц разглядаюцца дзяцінства і юнацтва галоўнага героя, яго службовая кар'ера ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польскім каралеўстве, палітычныя і рэлігійныя погляды, фундатарская дзейнасць, сямейныя адносіны і гаспадарчыя справы.

Для гісторыкаў, студэнтаў, музейных супрацоўнікаў і шырокага кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй Бацькаўшчыны.




**Святлана Алексіевіч на Свабодзе. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. – 722 с.: іл.**

У кнізе сабраныя матэрыялы, якія больш чым паўтара дзясяцігоддзя гучалі на хвалях Радыё Свабода – інтэрв'ю са Святланай Алексіевіч, дыскусіі з яе ўдзелам, рэпартажы пра сустрэчы з чытачамі ды іншыя тэксты пра першую ў Беларусі лаўрэатку Нобелеўскай прэміі.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр. Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кнічкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (вул. Янкі Купалы, 27).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by і e-kniga.by

# «Дакументы душы» – Святлана Алексіевіч выступіла ў Мінску

**Сустрэча з Нобелеўскай лаўрэаткай-2015 адбылася 14 красавіка ў малой залі Палаца Рэспублікі, што змясціў 500 гледачоў і шмат журналістаў. Імпрэза працягвалася больш за дзве гадзіны, і яшчэ столькі ж часу доўжылася аўтограф-сесія з пісьменніцай.**



Барыс ПЯТРОВІЧ, Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, Аляксандр ЛУКАШУК.

Беларусы даўно чакалі магчымасці сустрэцца са Святланай Аляксандраўнай: запрашальнікі на гэтую імпрэзу былі разабраныя літаральна праз паўгадзіны пасля адкрыцця рэгістрацыі на іх. З'яўленне на сцэне спадарыні Святланы выклікала працяглыя авацыі – гледачы апладзіравалі стоячы.

Зладзілі мерапрыемства, у межах якога была прэзентаваная кніга «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе», Радыё «Свабода» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Мадэратарамі вечара сталі дырэктар беларускай службы РС Аляксандр Лукашук і старшыня ГА «СБП» Барыс Пятровіч.

Напачатку вечара беларусы прыгадалі яскравыя моманты мінулага года, праглядзеўшы фрагменты відэа з уручэння спадарыні Святлане Нобелеўскай прэміі ў Стакгольме, з першай прэс-канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай гэтай значнай падзеі, а таксама пра тое, як беларусы сустракалі пісьменніцу ў аэрапорце па яе вяртанні ў Мінск пасля Нобелеўскага тыдня.

Выступілі пісьменнік Уладзімір Арлоў, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, журналістка Аляксандра Дынько, літаратар Сяргей Законнікаў, культуролаг і выкладчыца Юлія Чарняўская. Быў паказаны відэазварот журналіста і рэдактара кнігі «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе» Сяргея Навумчыка.

Кожны з прамоўцаў дзяліўся ўражаннямі пра сяброўства і супрацу са Святланай Алексіевіч, а таксама зачытваў найбольш запамінальны ўрывак з твораў пісьменніцы і задаваў ёй пытанне.

Якраз пытанням, пісьмовым і вусным, была прысвечаная большая частка сустрэчы. Звярнуцца да набеліянткі мог кожны ахвотны глядач. І хаця Святлана Аляксандраўна прызнаецца, што «стамілася ад самой сябе», бо ва ўсіх краінах свету, куды запрашалі аўтарку, на многіх прэс-канферэнцыях тэматыка размоў часта паўтараецца, публіка доўга яе не адпускала, а яна сама цярпліва распавядала.

Пра «чырвонага чалавека» і пра «чалавека маленькага», пра сітуацыю ва Украіне, у Расіі і дома, у Беларусі, пра 30-гадовае водгулле Чарнобыля, пра «філасофію неразумення сябе» ў простых людзей і «масу, якая можа не шмат, а толькі застаецца той формай, у якую яе залілі», пра «культ пакутаў, які гне (корёжит), ламае, затрымлівае і змяншае чалавека», пра «ўнутраныя слёзы» пасля вандровак па бацькаўшчыне і многае іншае.

«Чаму нашыя пакуты не канвертуюцца ў свабоду – я не ведаю. Мы не ведаем, што такое свабода і няма каму нас навучыць»; «Цяпер такія трывожныя часы, калі ўсё можа здарыцца, таму трэба быць шчаслівым, трэба старацца, каб было за што зачапіцца»; «Што для мяне любоў? Тое, што і для ўсіх. Такое суцяшэнне ад Бога, каб не страшна было паміраць».

### Будучыня кнігі

«За апошнія тры месяцы я была ў пяці еўрапейскіх краінах, і мне паўсюль казалі адну цікавую рэч: «Цяпер зноў час кнігі». І ніхто не можа знайсці гэтаму тлумачэння: людзі зноў пачалі чытаць кнігу. І не электронную. Я нават гэта бачу па сваіх накладах. Не толькі «набеліянства» адыграла ролю, а адыграла нейкае паветрые... Свет жа маленькі. Так што кніга пачала другое жыццё. Гэта кажуць выдаўцы, гэта кажуць пісьменнікі. У нас, у нашага пакалення, я думаю, няма такога вялікага разрыву з кнігамі».

### Праблемы Беларусі

«Праблема Чарнобыля стане перад намі. Калі ўлада акультурыцца, то гэта будзе галоўнай нашай праблемай. Гэта праблема на некалькі пакаленняў. Нацыянальная праблема, натуральна, вельмі важная. Праблема мовы, літаратуры, культуры, каб мы сталі паўнавартаснай нацыяй. Ва Украіне ў савецкі час усе размаўлялі па-руску, а цяпер усе гавораць па-ўкраінску. Значыць, гэта можна. Можа нацыя зрабіць такі рывок. У нас з кім не сустрэнься – дактары, таксісты – усе разумныя, усе разумеюць. Але кожны сядзіць як крот, і што яны там рыюць, я не ведаю. У нас не так шмат часу, каб вырашыць гэтыя праблемы».

### Украіна

«Я прыехала ўражаная ад Украіны. Кожны раз яна мяне ўражвае. Украінцы хочуць новага жыцця, іх яднае агульная памяць, зусім іншае адчуванне народа. Нягледзячы на ўмяшальніцтва трэцяй сілы, яны імкнуцца ў будучыню, яны выскачылі з прымітыўнай матэрыяльнасці. Бачна, што простыя людзі, студэнты апранутыя бядней за нас, але ўнутры сябе яны ўжо з абсалютна новай ментальнасцю.

Тое, што нам неабходна перадолець, – гэта міфы тэлебачання. Тое, што робяць расійскія каналы пра Украіну, – гэта злачынства. Вельмі патрэбны палітычны рэпартаж, так, як ён развіты, напрыклад, у Польшчы. Польскія журналісты пішуць пра падзеі ва ўсім свеце, і іх чытаюць, гэта фарміруе ў людзях культуру. А мы... сядзім і слухаем, «дзе хто колькі надаіў». Культурнае і палітычнае жыццё нашае ўладкавана неяк няправільна».

### Неабходнасць радзімы

«Як я пачуваюся на сустрэчы з беларускімі чытачамі? Гэта мой дом, мой свет, мая зямля. Ужо больш за 200 выданняў на 70 мовах свету апублікаваныя, і гэта вельмі радуе, але быць сярод сваіх людзей важна. Мой галоўны чытач тут, хаця я люблю і японскіх, і кітайскіх, і шведскіх, і нямецкіх чытачоў – увогуле люблю чалавека».

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Рыгор Барадулін. Дзённікі і запісы. Выпуск 2. 1970–1978. – Мінск, Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3). – 416 с.**

У другім выпуску дзённікаў і запісаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна сабраныя рабочыя штодзённікі, запісы шматлікіх паездак па беларускіх гарадах і вёсках, нататкі ў часе вандровак па рэспубліках былога Савецкага Саюза, а таксама зацемкі пра ўбачанае ў Даніі, Фінляндыі і Швецыі. У кнігу ўвайшлі таксама раней не друкаваныя ў зборніках вершы, сяброўскія эпіграмы, дарчыя рыфмаваныя надпісы на кнігах, а таксама асобныя вершы, прысвечаныя самому дзядзьку Рыгору, у тым ліку фотаздымкі, малюнкі сяброў і новых знаёмцаў. Выданне пабачыла свет дзякуючы супольным намаганням МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».




**Васіль Жуковіч. Арабінавая ноч. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 66). – 192 с.**

Васіль Жуковіч, які часцей выступае як паэт, выдаў кнігу прозы. «Арабінавая ноч» заснаваная на жыццёвым досведзе аўтара. Найбольш старонак тут прысвечана апавяданням побытавага характару, але празаік не канцэнтруецца на жыцці пэўнай вёскі альбо на апісанні пэўнага часу: у творах падаюцца эпізоды з даваеннага жыцця заходнебеларускай вёскі, гады нямецкай акупацыі і вывазу беларусаў у Нямеччыну, сталінскія гады ў Мінску, моладзь шасцідзясятых, а таксама і нашыя часы 2000-х.

Жанрава «Арабінавая ноч» вызначаецца разнастайнасцю: у кнізе прадстаўленыя і творы малафарматныя – абразкі і апавяданні, вылучаныя ў асобны раздзел, – і больш аб'ёмная аповесць «Пасланне ў іншасвет, альбо Развагі максімаліста». Яна пабудаваная як ліст лірычнага героя да памерлага дзядулі, у лісце раскрываецца ўвесь пакручасты лёс беларуса ў час гістарычных выпрабаванняў для краіны: няпростыя сямейныя стасункі, уцёкі з выгнання і працы ў нямецкага баўэра і вяртанне на Радзіму.




**Алесь Пашкевіч. Рух. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 120 с.**

Твор пра вынаходнікаў і нафтамагнатаў, паўстанцаў і цароў, разведчыкаў і здраднікаў, а найперш – пра тых, хто шчыра любіць сваю радзіму. Алесь Пашкевіч прадстаўляе аповесць пра пачатак дызельнай эпохі. Ва ўступным слове да выдання аўтар прызнаецца, што меў намер «выпісаць рэальнасць, якой, магчыма, і не было, але якая... нараджаецца ва ўяве чытача ці хаця б самога аўтара». Так, балансуючы паміж гісторыямі рэальных персанажаў, якія жылі сто год таму, і мастацкім вымыслам, пісьменнік стварае ўнікальны свет. Дык чытайма!

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 37
красавік, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 37 29.05.2016.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com